Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 21 15-21 верасня 1995 года ЦАНА 500 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Гэтыя льготы скасаваныя Указам Прэзідэнта

***Юрыдычны аддзел сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь размножыў для карыстання дэпутатамі спіс ільгот, што прыпынены Указам Прэзідэнта РБ ад 1 верасня 1995 года. Гэты спіс, які ёсць у рэдакцыі, мы і змяшчаем у перакaзе.***

***Прыводзм спіс законаў і прыпыненых Указам Прэзідэнта адпаведных ільготаў.***

*Закон "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь":* права кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Савета на бясплатны праезд.

*Закон "Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь":* права кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў дэпутатаў на бясплатны презд.

*Закон: "Аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь":* вызваленне дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад вытворчых або службовых абавязкаў і кампенсацый выдаткаў, звязаных з дэпутацкай дзейнасцю; права дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь на бясплатны праезд.

*Закон:" Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС":* атрыманне беспрацэнтнай пазыкі на набыццё або будаўніцтва садовых домікаў і на добраўпарадкаванне садовых участкаў; атрыманне беспрацэнтнай пазыкі на будаўніцтва або набыццё індывідуальных жылых дамоў, кааператыўнага жыллёвага будаўніцтва з пакрыццём 25 працэнтаў памеру пазыкі за кошт бюджэту; бясплатны праезд у гарадскім грамадскім транспарце, чыгуначным, аўтамабільным і водным транспарце прыгарадных зносін; прадастаўленне 50-працэнтнай скідкі з кошту праезда адзін раз у год у любы пункт краіны і назад на чыгуначным, водным, паветраным або аўтамабільным міжгародным транспарце; аплата жылой плошчы ў памеры 50 працэнтаў кватэрнай платы; атрыманне беспрацэнтнай пазыкі на будаўніцтва або набыццё індывідуальных жылых дамоў, кааператыўнае жыллёвае будаўніцтва; атрыманне беспрацэнтнай пазыкі на атрыманне будаўнічых матэрыялаў для будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў з пакрыццём 50 працэнтаў за кошт сродкаў бюджэту; атрыманне выязджаючым пазыкі ў памеры 10 тысяч рублёў на кожнага члена сям'і на набыццё або будаўніцтва дамоў (кватэр); бясплатнае атрыманне па рэцэптах урачоў лекаў для дзяцей і падлеткаў; выплата работнікам, камандзіраваным на будаўніцтва аб'ектаў, звязаных з ліквідацыяй вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, 75 працэнтаў сярэдняй заработнай платы па асноўным месцы работы замест сутачных.

*Закон: "Аб міліцыі":* бясплатнае карыстанне ўсімі відамі грамадскага транспарта ў межах рэспублікі; 50-працэнтная скідка па аплаце жылой плошчы і камунальных паслуг, а таксама паліва; забеспячэнне бясплатным жыллём з ацяпленнем і асвятленнем у сельскай мясцовасці; выплата кампенсацыі работнікам, якія карыстаюцца жылымі памяшканнямі па дагаворы найму і паднайму; прадастаўленне льгот па ўплаце налогаў.

*Закон "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь":* (у адносінах студэнтаў і навучэнцаў, якія атрымліваюць здавальняючыя адзнакі) – права на гарантаваны стыпендыяльны ўзровень забеспячэння студэнтаў вышэйшых, навучэнцаў сярэдніх і прафесійна-тэхнічных устаноў дзённай формы навучання, якія паспяхова вучацца; права педагагічных работнікаў у сельскай мясцовасці, рабочых пасёлках карыстацца бясплатна жылой плошчай, ацяпленнем і асвятленнем.

*Закон "Аб сацыяльнай абароне інвалідаў у Рэспубліцы Беларусь":* ( у адносінах інвалідаў III групы) – права бясплатнага праезда ва ўсіх відах гарадскога і прыгараднага пасажырскага транспарта, прадастаўленне 50-працэнтнай скідкі з кошту праезда на ўнутраных лініях паветранага, чыгуначнага, рачнога і аўтамабільнага транспарта з 1 кастрычніка да 15 мая і адзін раз у астатні час года.

*Закон "Аб статусе дэпутата мясцовага Савета дэпутатаў Рэспублікі Беларусь":* права дэпутата на бясплатны праезд.

*Закон "Аб ветэранах":* ільготы (50-працэнтная скідка) па аплаце жылой плошчы, камунальных паслуг, тэлефона, паліва і кампенсацыя гэтых ільгот за кошт бюджэту; бясплатны праезд у грамадскім транспарце.

*Закон " Аб пагранічных войсках Рэспублікі Беларусь":* права бясплатнага праезда ўсімі відамі грамадскага транспарта.

*Закон "Аб статусе ваеннаслужачых":*

САКРАТАРЫЯТ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
ЮРЫДЫЧНЫ АДДЗЕЛ
220016, г. Мінск, вул. К. Маркса, 38, тэл. 29-37-12, факс (0172) 27-37-84

СЕКРЕТАРИАТ ВЕРХОВНОГО СОВЕТА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ЮРИДИЧЕСКИЙ ОТДЕЛ
220016, г. Минск, ул. К. Маркса, 38 тел. 29-37-12, факс (0172) 27-37-84

__.________ 199 г.

Нормы законов, приостановленные Указом Президента Республики Беларусь от 1 сентября 1995 г. № 349 "Об упорядочении некоторых льгот для отдельных категорий граждан"

1. Закон "О выборах депутатов Верховного Совета Республики Беларусь":

статья 45 - право кандидата в депутаты Верховного Совета на бесплатный проезд.

2. Закон "О выборах депутатов местных Советов депутатов Республики Беларусь":

статья 43 - право кандидатов в депутаты местных Советов депутатов на бесплатный проезд.

3. Закон "О статусе депутата Верховного Совета Республики Беларусь":

права на бясплатную перадачу ва ўласнасць ваеннаслужачымі займаемых імі жылых памяшканняў; права на праезд у час адпачынку, або пры пераездзе да месца службы за кошт сродкаў Міністэрства абароны.

*Закон "Аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь":* перадача займаемых жылых памяшканняў ва ўласнасць бясплатна або са скідкай да 70 працэнтаў; прадастаўленне льготных банкаўскіх крэдытаў на індывідуальнае або кааператыўнае жыллёвае будаўніцтва; бясплатны праезд у грамадскім транспарце.

*Закон "Аб ахове здароўя":* прадастаўленне бясплатных кватэр медыцынскім і фармацэўтычным работнікам, якія пражываюць у сельскай мясцовасці з ацяпленнем і асвятленнем.

*Закон "Аб пажарнай бяспецы":* права бясплатнага карыстання грамадскім транспартам работнікамі дзяржпажнагляду, якія працуюць у сельскай мясцовасці.

*Закон "Аб судаўладкаванні і статусе суддзяў":* прадастаўленне льготных банкаўскіх крэдытаў на індывідуальнае і кааператыўнае жыллёвае будаўніцтва; права сям'і загінуўшага суддзі на атрыманне добраўпарадкаванага жылога памяшкання на аснове і ўмовах, якія мелі месца на момант гібелі суддзі.

*Закон "Аб Кабінеце Міністраў РБ":* у частцы скідкі па аплаце жылой плошчы і камунальных паслуг; у адносінах членаў сям'і – сацыяльнае, медыцынскае і курортнае абслугоўванне; замацаванне дзяржаўнай дачы; ушанаванне памяці Прэм'ер - міністра і пахаванне за кошт дзяржавы; права карыстання льготным крэдытам і права на дадатковую жылую плошчу ў памеры да 15 кв. м.

*Закон "Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь":* прадастаўленне дэпутату адпачынку, які аплачваецца, працягласцю 36 рабочых дзён; захаванне Вярхоўным Саветам за былым дэпутатам былой заработнай платы на перыяд яго працаўладкавання да аднаго года, а пры перакваліфікацыі – да двух гадоў, прадастаўленне дэпутату часовай работы на перыяд працаўладкавання з даплатай да ўзроўню заработнай платы дэпутата за кошт сродкаў Вярхоўнага Савета; немагчымасць звальнення былога дэпутата на працягу двух гадоў пасля скачэння паўнамоцтваў па ініцыятыве наймальніка без згоды Вярхоўнага Савета; распаўсюджванне на былых дэпутатаў на працягу двух гадоў парадку працаўладкавання і сацыяльнай абароны, прадугледжаных для дэпутатаў у выпадку іх звальнення; 50-працэнтная скідка па аплаце жылой плошчы і камунальных паслуг для Старшыні Вярхоўнага Савета; у адносінах членаў сям'і – захаванне сацыяльнага медыцынскага і санаторна-курортнага абслугоўвання членаў сям'і Старшыні Вярхоўнага Савета; захаванне права былога Старшыні Вярхоўнага Савета на карыстанне службовай аўтамашынай; замацаванне за былым Старшынёй Вярхоўнага Савета дзяржаўнай дачы.

*Закон "Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь":* скідка па аплаце жылой плошчы і паслуг (50 працэнтаў); замацаванне спецыяльнага медыцынскага і санаторна-курортнага абслугоўвання членаў сям'і былога Прэзідэнта; замацаванне за былым Прэзідэнтам права на карыстанне службовай аўтамашынай; замацаванне за былым Прэзідэнтам дзяржаўнай дачы; забеспячэнне аховы былога Прэзідэнта.

## Сцяг разладу?

***У Маладзечанскім гарвыканкоме — чарговыя кадравыя перамены. Звольнілася па ўласнаму жаданню загадчыца агульнага аддзела, развітаўся з калектывам кіраўнік спраў.***

Мажліва, падобная сітуацыя не стала б прадметам дэталёвага разбору на газетнай паласе (ці мала сёння пeратурбацый на самым высокім узроўні?), калі б не адна акалічнасць. Яблыкам разладу паміж старшынёй выканкома Станіславам Канстанцінавічам Татарыновічам і ягоным бліжэйшым памочнікам, кіраўніком спраў выканкома Валерыем Іванавічам Косткам стаў некалі дзяржаўны, а цяпер апальны сцяг.

"РГ" і іншыя сродкі масавай інфармацыі паведамлялі ўжо, як у Маладзечне ў хуткім часе пасля рэферэндуму, яшчэ да ўказа Прзідэнта, адбывалася змена сімволікі. Улады здымалі з будынка выканкома бел-чырвона-белы сцяг, а назаўтра раніцай ён ізноў трапятаў на флагштоку. Так здаралася восем разоў. І толькі пасля таго, як былі заменены ўсе замкі на ўваходных дзвярах і абрэзана электразваркай пажарная лесвіца, гарвыканкомаўскі дах аказаўся недасягальным для парушальнікаў спакою мясцовай "вертыкалі".

Праз колькі часу стала вядома: дачыненне да вывешвання сцяга меў згаданы ўжо В. Костка. Свае дзеянні ён патлумачыў тым, што старшыня выканкома быў занадта паспешлівым у імкненні звергнуць сімвалы; што яго неафіцыйныя ўказанні зняць сцяг да афіцыйнага рашэння аб тым сутыкнуліся з Законам аб дзяржаўным сцягу і сімволіцы. Праўда, апошні аргумент аказаўся, не надта пераканаўчым, таму што ў хуткім часе Валерый Іванавіч пайшоў у чарговы адпачынак, а затым і наогул падаў у адстаўку.

І яшчэ на адзін момант нельга не звярнуць увагу. Цень непрыязнасці пралегла не толькі паміж кіраўніком горада, актыўнымі аўтарамі і ўдзельнікамі шматлікіх пераменаў, якія перажыло Маладзечна, але і таварышамі па партыі. Цяперашні мэр горада ўзначальвае міжрэгіянальную арганізацыю Партыі народнай згоды, а былы кіраўнік спраў ходзіць у ягоных намесніках. Пасля гэтага як не ўсклікнуць: ну і часы, ну і партыі!

***Яўсей Пашук***

Вось так і жывём

## "Літоўскае пытанне"

***Астравецкі раён.*** Напэўна, многія з чытачоў нашай газеты памятаюць паведамленні ў розных сродках масавай інфармацыі адносна будаўніцтва ў вёсцы Рымдзюны літоўскага культурнага цэнтра. Самыя высокія асобы абедзвюх краін у свой час завяралі адзін аднаго ў дружбе і супрацоўніцтве, падмацоўваючы гэта "канкрэтнымі" справамі. У планах было будаўніцтва пачатковай літоўскай школы (летась у ёй займалася 16 вучняў, сёлета іх колькасць павялічылася), гімназіі, інтэрната, дзіцячага садка, медпункта, Дома культуры з бібліятэкай і многага іншага, уключаючы падсобныя цэхі, магазін, кафэ, жыллё для работнікаў. І ўсё гэта на працэнтаў 70-80 выканана. Але...

Вось ужо другі год гэтая вялікая будоўля практычна замарожана. У першую чаргу з-за нявызначанасці статуса самога цэнтра: ці то ён будзе літоўскі цэнтр на беларускай зямлі, ці літоўскі цэнтр - на "літоўскай" зямлі. Ды і іншыя нюансы ёсць.

Так, у другой палове жніўня ў Рымдзюны прыязджала здымачная група Беларускага тэлебачання, якая рыхтавала перадачу аб праблемах, што ўзніклі апошнім часам. І можна з упэўненасцю сказаць, што гэта "малпава праца", бо мясцовыя жыхары да гэтай пары прымаюць перадачы толькі літоўскага ТБ. Беларускае тэлебачанне ў гэткую глыбінку не даходзіць. Як, дарэчы, і расійскае.

Так вось і жывем: з поўначы ў інфармацыйнай прасторы пануе Літва, з захаду - Польшча, з поўдня - Украіна, з усходу - Расія. А беларуская звужаецца, нібы шчыгрынавая скура.

Дзякуй Богу, што літоўцы і беларусы, якія жывуць на маёй радзіме, не звяртаюць увагу на разборкі ў вярхах і па-ранейшаму сустракаюць адзін аднаго словамі: "Sveikas!" - "Добры дзень!" Для іх ніякага пытання не існуе.

***Валерый МАРКЕЛАЎ.***

# Дзверы Свабоднага прафсаюза завода «Зеніт» ніхто не збіраўся апячатваць. Яго старшыня працуе.

Указ Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі аб прыпыненні дзейнасці свабоднага прафсаюза не мог не закрануць інтарэсы сотняў вілейчан, членаў гэтай арганізацыі, у асноўным, работнікаў «Зеніта». Старшыня арганізацыі Свабоднага прафсаюза «Зеніта» **Дзмітрый Абразцоў** пагадзіўся адказаць на некаторыя пытанні «РГ».

***— Пасля вядомага рашэння прэзідэнта прафсаюзныя вярхі нечакана для многіх знайшлі згоду: старшыня Федэрацыі галіновых прафсаюзаў Уладзімір Ганчарык салідарызіраваўся са Свабоднымі прафсаюзамі. Ці ёсць паразуменне паміж Свабодным прафсаюзам і галіновым прафкомам на вашым прадпрыемстве?***

— Менавіта ў гэтай сітуацыі, калі ідзе парушэнне правоў рабочых, паразуменне ёсць. Не дзіўна. Людзям больш за два месяцы не выплачваецца зарплата, затрымліваюць выплату адпускных — парушаецца калектыўны дагавор і заканадаўства. Сем'і рабочых цяпер жывуць толькі з дапаможных гаспадарак, з дачы, з вясковай грады. Праца не забяспечвае не тое што дабрабыт, не забяспечвае жыццё. На мой погляд, ідзе да таго, каб забараніць дзейнасць прафсаюзных арганізацый, каб напрэрадні выбараў увесці надзвычайнае становішча.

***— Што робіць сёння свабодны прафсаюз?***

— Мы не робім сёння нейкіх заяў, не выстаўляем патрабаванняў дырэктару — гэта толькі адцягненне ўвагі ад сапраўдных прычын крызісу. Цяпер навучаем рабочых сваім правам, вучым работнікаў лічыць свае грошы. Трэба, каб рабочыя ведалі, што патрабаваць.

***— Ваша памяшканне на заводзе ніхто не зачыняў?***

— Ніхто не зачыняў, не апячатваў, замка не вешаў. Пагроз у наш бок не было. Адміністрацыя, мабыць, сама не ведае, што рабіць, як паставіцца да Указа Прэзідэнта. Думаю, у кіраўніцтва завода хопіць разумення дачакацца рашэння Канстытуцыйнага Суда.

У адпаведнасці з калдагаворам пры звальненні члена свабоднага прафсаюза па скарачэнню штатаў адміністрацыя павінна звярнуцца за згодай да прафсаюза. Падыходзіць двухмесячны тэрмін у некаторых рабочых, якія маюць намер скараціць, але ніхто за згодай не звяртаўся, але і скарачаць не скарачаюць. Бо што, скажыце, рабіць адміністрацыі, калі раптам Канстытуцыйны Суд прызнае рашэнне аб прыпыненні дзейнасці прафсаюза незаконным? Так што на заводзе цяпер чаканне. І як прыпыніць дзейнасць прафсаюза — у нас цяпер шмат заявак на санаторнае лячэнне, у дамы адпачынку...

***— Прафсаюз не забыўся і на такую сваю функцыю?***

— Не. Мы штогод выдавалі пуцёўкі ў санаторыі і дамы адпачынку Украіны, Беларусі, дзіцячыя санаторыі. У нас жа немалая арганізацыя. Каля трохсот сарака членаў. Працы хапае.

*Гутарыў*
***Аляксандр МАНЦЭВІЧ***




**Бізнес межаў не ведае. Вось і ў Смаргоні набірае сілу прадпрымальніцкі рух. Нездарма тут ахвотна размяшчаюць свае філіялы сталічныя камерцыйныя банкі, сярод якіх добра вядомы "Алімп".**

*На здымку:* супрацоўніца філіяла банка "Алімп" Ларыса Ляўковіч.

***Фота М. Разумніка.***

# Загадчык аддзела адукацыі незадаволены

***МАЛАДЗЕЧНА. Калі карыстацца хакейнай тэрміналогіяй, то лета ў маладзечанскіх школах скончылася з лікам 7:5 на карысць беларускамоўных першых класаў.***

Становішча, здаецца, нармальнае, нядрэннае, аднак загадчык гарадскога аддзела адукацыі У. Лягові сабою незадаволены, лічыць, што можна было спрацаваць яшчэ лепш. Гэта пры тым, што ў адпачынак яму сёлета схадзіць не давялося.

У гэтыя верасьнёўскія дні, дарэчы, аддзел адукацыі ў чарговы раз (чацверты за апошнія 20 год) пераязджае на новае месца. Адзін пераезд — гэта два пажары...

Такім чынам, у выкананне Канстытуцыі нашай краіны, Закона аб мовах, (прабачце за высокі стыль, але нават вышэйшае кіраўніцтва пагарджае гэтым) ніводны рускамоўны першы клас не адкрыты ў СШ NN 1, 2, 5, 7, 9, 12 і вядома, беларускай гімназіі. Выклікае павагу пазіцыя дырэктароў гэтых школ П. Хроля, У. Шпетнага, А. Асіповіча, В. Малярэвіч, Я. Вяль, Л. Васілевіч, Б. Вайцяхоўскага.

Было, часам, і тут супраціўленне бацькоў, заснаванае, відаць, на рэферэндуме. Не выключана, што ў СШ N 2 адзін рускамоўны клас прыйдзецца адкрываць.

Некаторым бацькам хочацца нагадаць: гісторыя сведчыць, што падобныя працэсы суверэнізацыі незваротныя. Раней ці пазней мы адчуем сябе беларусамі, нацыяй. Вось тады дзецям нашым, рускамоўным, сапраўды цяжкавата прыйдзецца.

А вось дырэктар школы мастацтваў N 12 Л. Васілевіч падобную "праблему" вырашыла проста: у нас жа беларускае мастацтва, а не рускае ці ўдмурцкае, якія ж сумненні могуць быць у мове навучання.

Першапачаткова ў горадзе планавалася адкрываць рускамоўныя класы толькі ў СШ №№ 4 і 11. На сёння ў чацвертай і шостай усе першыя класы рускамоўныя, у восьмай і аддзінаццатай — усяго па адным беларускамоўным.

Асобна хочацца спыніцца на СШ N 3. Размешчана яна ў прыватным сектары горада (дзе традыцыйна пераважае беларускамоўнае насельніцтва), мае ў сваім распараджэнні старыя і новыя карпусы. Доўгі час кіраўніцтва школы ўпарцілася адкрыццю беларускамоўных класаў; нарэшце з'явілася рашэнне Маладзечанскага гарвыканкама: адкрыць у СШ N 3 адзін беларускамоўны клас з 1.09.1995 г. Аднак грымнуў рэферэндум і адміністрацыя школы лічыць магчымым ізноў не выконваць як заканадаўства краіны, так і рашэнні мясцовай улады ( апошняя, відаць, на выкананні сваіх пастаноў асабліва і не настойвае).

У цэлым жа паказальна, што, нягледзячы на рэферэндумы і заявы вышэйшага кіраўніцтва аб "непаўнацэннасці" беларускай мовы, у Маладзечне ніводзін клас (з другога па шосты ўключна) на рускую мову не пераведзены.

***Аддзел інфармацыі.***

# Што нам Амерыка!

Яшчэ не так даўно нас, паслухмяных, надзейна абароненых ад свету "жалезнай заслонай" савецкіх людзей, партыя з дапамогай усіх сродкаў масавай інфармацыі як магла пужала Захадам. Маўляў, там людзі і жывуць заможна людзі, але баяцца выйсці вечарам на вуліцу, бо адразу заб'юць ці зґвалцяць. Разлік быў дакладны: хто праверыць? За мяжу, у высокаразвітыя краіны, амаль нікога не пускалі. А тыя, хто курсіраваў штогод па некалькі разоў туды-сюды, як правіла, круціліся непадалёку ад "царскага карыта". Таму не ў іх інтарэсах было "разглашать тайну". Тым больш, што і адпаведную падпіску адпаведным органам прыходзілася даваць.

Цяпер ужо і мы рухаемся па рынкавай сцежцы. Адкрыліся насцеж вароты на Захад, у Амерыку. Едзь — не хачу. Заможныя землякі нашы карыстаюцца момантам. А бедныя вымушаны назіраць за прыгожым жыццём капіталістаў па тэлевізары (не ў кожнага зараз і ён ёсць). Амаль штодзень толькі і бачыш прыгожых, задаволеных сваім жыццём немцаў, французаў, амерыканцаў, шведаў... Уздыхаем: у нас яно пагоршылася, нават і прасвету не бачна. Відаць, адсталі мы ад іх назаўсёды. Праўда, трымаем пакуль высокія паказчыкі па злачыннасці. Кожны тыдзень прыносіць новыя факты замаху на жыццё, маёмасць і нават забойстваў. Чытаеш міліцэйскую хроніку — валасы дыбам устаюць. Вось толькі апошнія факты па Маладзечне і раёну:

...5 верасня ў Чысцінскай бальніцы сканаў 45-гадовы мужчына. Высветлілася, што смяротнае нажавое раненне яму нанесла ўласная жонка... У Радашковічах раненне нажом ад уласнага мужа атрымала жонка... 10 верасня ў гарадскую бальніцу шпіталізаваны з нажавым раненнем 49-гадовы грамадзянін С. Днём раней у гэтую ж бальніцу трапіў 53-гадовы жыхар вёскі Наслава таксама з нажавым раненнем, якое нанёс яму 24-гадовы аднавясковец... Труп 40-гадовай жанчыны знойдзены ў некалькіх метрах ад аўтатрасы Мінск-Нарач... Недалёка ад станцыі Дубравы выяўлены труп жанчыны...

І вось ужо на гэтым тыдні знойдзены труп 25-гадовага маладзечанца, студэнта Белдзяржуніверсітэта Б. Яшчэ адна сям'я ў трауры. Хто ж будзе наступны?

***Валянціна Марцінкевіч***

# Яго знайшлі пазней у лесе нежывога

***Жудасная і недарэчная трагедыя адбылася днямі на тэрыторыі агрофірмы "Зара"***

Ля дзвюх гадзін ночы на прасёлачнай дарозе Брусы — Рудзевічы сутыкнуліся Ява-350 з каляскай і ЗІЛ-130. У аварыю трапілі адразу чатыры чалавекі і толькі адзін з іх на сённяшні дзень жывы — пяснік Пётр Пятроўскі. Вельмі многае ў гэтай трагедыі становіцца зразумелым, калі пазнаёмішся з тлумачэннем, якое ён даў следчаму:

"Пад вечар я прыехаў з Рудзевіч да Аляксандра Хіхіча на веласіпедзе... Сталі распіваць спіртныя напіткі. Пазней да нас далучыўся Калачоў. Хіхіч сказаў, што дадому мяне адвязе на матацыкле. Як садзіўся на "ЯВУ", дзе сядзеў — не памятаю, аўтамабіль "ЗІЛ" наогул не бачыў..."

А зараз невялікае тлумачэнне. Аляксандр Хіхіч пражываў у Сватках, працаваў у мясцовай гаспадарцы трактарыстам. Сяргей жа Калачоў прыехаў пагасцяваць да сваякоў на Мядзельшчыну з Санкт-Пецярбурга.

Вадзіцель "ЗІЛа" Аляксандр Роўда, які ў тую трагічную ноч дзяжурыў на збожжатаку, пасля сутыкнення з "Явай" кінуўся па дапамогу ў вёску Рудзевічы, да якой было зусім недалёка. Вось што расказаў адзін з яе жыхароў:

"Роўда пагрукаў да мяне ў дом і папрасіў дапамагчы. Пры гэтым сказаў, што збіў машынай чалавека. Прыйшлі на месца аварыі. Агледзелі яго, карыстаючыся запалкамі. Калі Аляксандр убачыў, што пацярпеўшых ажно трое,- а было такое ўражанне, што ўсе яны нежывыя,- то пачаў моцна нервавацца. Гаварыў, што яму дадуць пажыццёвы тэрмін зняволення. І хаця я спрабаваў яго спыніць, Роўда пабег у лес. Тады я пайшоў у вёску, выклікаў па тэлефоне "хуткую".

Аказалась, што на месцы здарэння загінуў толькі Аляксандр Хіхіч, які кіраваў матацыклам. У мінулы аўторак памёр у рэанімацыі і дваццацігадовы Сяргей Калачоў. Вадзіцеля Аляксандра Роўду ў тую ноч з раніцы ўжо больш ніхто не бачыў. Яго знайшлі пазней у лесе нежывога — павесіўся на сасонцы на ўласнай папрузе...

— Дарэмна ён гэта зрабіў,— заўважыў у размове следчы Мядзельскага РАУС Васіль Макачоў.— У ходзе следства ўстаноўлена, што віны Роўды ў аварыі няма. Гэта Аляксандр Хіхіч не справіўся з кіраваннем, выехаў на паласу сустрэчнага руху. І не было б ні гэтага здарэння, ні гэтай балючай для многіх людзей трагедыі, каб ён сеў за руль матацыкла цвярозы.

Да сказанага вышэй цяжка штонебудзь дадаць.

***Наш кар.***

